# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (242) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 16 КАСТРЫЧНІКА 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



Фота — В. Касакоўскі

# ВІТАЕМ ІІ З'ЕЗД ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ

ІІ З'езд Беларускага Літаратурнага Аб'яднання — значная падзея ў дзейнасці гэтай маладой творчай арганізацыі. 16 кастрычніка ўдзельнікі з'езду падвядуць падрахункі свайго пройдзенага шляху і вызначаць новыя напрамкі далейшай дзейнасці.

Літаратурны маладняк, згуртаваны вакол «Нівы», уяўляе сабою няшматлікую жменьку людзей, якая вырашыла прысвяціць свае сілы авалодванню высакароднай прафесіяй пісьменніка. Колькі ж яшчэ перад гэтымі аратымі роднага слова неспазнаных дарог творчага выспявання і станаўлення.

Слова — гэта каштоўная сыравіна, якая дзякуючы таленту мастака, выяўляе невычэрпнае хараство і багацце роднай мовы. Каб кожны радок у творы быў мілагучны і гібкі, вобразны і непаўторны, неабходна ўпартая, часам поўная пакут, шматгадовая праца. Максім Багдановіч у адным са сваіх вершаў так калісь пісаў аб упартай працы над вершам:

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем:
Як ударыш ты ім, ён як звон зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў!

І вось гэтыя словы паэта раскрываюць нам усю цяжкасць творчай працы. Аднак і гэтага мала. Кожны аўтар павінен не забываць аб тым, што без павышэння сваёй літаратурнай і агульнай адукацыі, нават калі ён мае дараванне, не патрапіць даць грамадству поўнацэннай мастацкай прадукцыі.

Гаворачы аб пісьменніцкай працы, Колас адзначаў: «Перш за ўсё шмат залежыць ад здольнасцей самага пісьменніка. Аднак аднае здольнасці яшчэ мала, патрэбна, і высокая тэхніка мастацкага пісьма, патрэбна мастацкая культура, агульная адукацыя, культурны ўзровень, які б дазваляў пісьменніку стаяць на вышыні перадавых ідэй свайго часу і свайго класа».

Дык пажадайма ІІ З'езду Беларускага Літаратурнага Аб'яднання самых плённых вынікаў у рабоце, пажадайма членам згуртавання ўдач у іх высакароднай творчай дзейнасці!

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ семінар у Бельску

«Культурная праца ў вёсцы абмяжоўваецца найчасцей да дзейнасці мастацкіх гурткоў і наладжвання імпрэз. Усё яшчэ замала ўкараняюцца такія формы культурна - асветнай працы ў вясковым асяроддзі, як лектарскія гутаркі, літаратурныя вечарыны, чытальніцкія гурткі і г. д. Усё яшчэ недастаткова вядзецца барацьба супроць забабонаў, цемры, бескультурнасці і іншых перажыткаў мінуўшчыны», — так гаварыў у сваім дакладзе кіраўнік Аддзела культуры Павятовай Рады тав. Васіль Кардзюкевіч на павятовым семінары беларускага актыву, які адбыўся 25 верасня г. г. у Бельску. У семінары прынялі ўдзел таксама настаўнікі і бібліятэкары

З дакладам аб польска-беларускай братняй садружнасці выступіў тав. Віктар Швед — кіраўнік культурна - асветнай секцыі ГП БГКТ.

На семінары шмат увагі прысвечана справе пашырэння сеткі вячэрніх школ пачатковага навучання для дарослых, якая ў беларускіх вёсках пакуль ёсць вельмі малая. У сучасны момант таксама зусім мала ёсць, бо ўсяго тры школы, сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Тут трэба памятаць, што яны з'яўляюцца адным з найважнейшых асяроддзяў павышэння сельскагаспадарчай культуры на вёсцы.

Асобным пытаннем з'явілася справа ўзмацнення прапаганды беларускай кніжкі. Нягледзячы на вялікія тут дасягненні, усё ж яшчэ застаецца шмат нявыкарыстаных форм пашырэння беларускага чытальніцтва. Перадусім, неабходна ўзбагаціць наглядную прапаганду роднай літаратуры шляхам арганізацыі цікавых выставак, інфармацыйных табліц і насценгазетак.

(Працяг на стар. 5)

# АСНОВЫ СІЛЫ

Рост прадукцыі ў кааператыўнай гаспадарцы залежыць перш за ўсё ад тэмпу тэхнічнага прагрэсу ў ёй, а гэта патрабуе ад сельгаскааператываў усё больш узрастаючага інвесціравання.

Сельгасспулдзельні плануюць свае інвестыцыі на шэсць месяцаў раней, каб запэўніць сабе добрую падрыхтоўку сродкаў іх выканання. План сваіх капіталаўкладанняў у 1961 годзе апрацавала 19 сельгаскааператываў Беласточчыны. Паводле гэтага плану супольная сельская гаспадарка Беластоцкага ваяводства ўложыць на свае патрэбы 2 мільёны 228 тыс. злотых. Інакш кажучы, на адно супольнае гаспадарства выпадзе каля 125 тыс. злотых. Як на адзін гаспадарчы год, сума зусім не малая.

Інвестыцыі ў сельгаскааператывах, у асноўным, згуртуюцца ў гэткіх дзялянках сельскай гаспадаркі, як будаўніцтва — 33,8% агульнай сумы, пакупка сельгаспрыладаў і машын — 48,5%, пакупка жывога статку — 13,7%.

Будаўніцтва будзе абмяжоўвацца да бягучых патрэб спулдзельні. Перш за ўсё будуць пабудаваны гумны і гаражы для ўсякіх машын ды прыладаў. Укладаць грошы на іншае будаўніцтва пакуль што няма патрэбы, бо зараз не выкарыстоўваецца шмат месца жывёлагадоўлі ў існуючых будынках. Тымчасам у наступаючай пяцігодцы сельгаскааператывы павінны падрыхтавацца да прадукцыі кваліфікаванага насення. Таму неабходна патрэбны гумны для добрага забеспячэння збожжа.

Сучасны стан машынна - трактарнага парку ў сельгасспулдзельнях не можа яшчэ забяспечыць поўнай механізацыі сялянскіх прац для ўсёй вёскі. Перадусім не хапае машын неабходных пры правільна пастаўленай вытворчасці збожжа на насенне і кармавых ды прамысловых культур. Тут трэба ўлажыць нямала капіталу. Аднак адным толькі сельгаскааператывам не аплачваецца купляць дарагіх, хаця высокапрадукцыйных машын, таму што спулдзельні пры сучасным сваім стане не маюць магчымасці на сваіх палях поўнасцю выкарыстаць гэтых машын. Трэба спалучыць тут намаганні з суседнімі сельгасгурткамі і з іншымі сялянскімі арганізацыямі. Тады смела можна будзе купіць сіласакамбайны, грузчык, або рас-

(Працяг на стар. 5).

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## Вось як было

Мы на хутары Гнецюкі (Беластоцкі пав.) гутарым з Параскай Ігнацюк.

**— Колькі Вам гадоў?**

— Ой, аджыла я, пане, ужо свой век, аджыла... Мне ўжо дзевяноста два, або і больш.

**— То Вы яшчэ зусім добра выглядаеце, маючы 92 гады.**

— Са здароўем дрэнна, паночку. Сэрца ўжо слабое, слуху не маю і галава баліць. Але каля дому яшчэ што-небудь пасобіць магу. Вады прынясу, гусі дапільную, яблыкі ці грушы пазбіраю, пустазелле ў гародзе вырву.

**— А колькі гадоў Вам было, як выйшлі Вы замуж?**

— Ужо не памятаю, але хіба семнаццаць або васемнаццаць. Шасцёра дзяцей, пане, выгадавала і мужыка 12 гадоў таму пахавала.

**— Тады шмат чаго ўспамінаць ёсць у Вас.**

— Ой, ёсць, паночку, ёсць... А ўсё інакш, чым зараз. Ільну або канапель кожны пасеяў, а зімою палатна з гэтага наткалі столькі, што на ўсё хапала. І грошай не трэба было. Вопратку самі зрабілі і самі пашылі, абутак які на дзесяць з лішнім гадоў адзін раз купіў, каб да царквы было ў чым зайсці, а так то і ў лапцях хадзілі — выгодна і мякка, і ногі не балелі. А зараз дзяўчына замуж выбіраецца, а не ведае як кудзеля выглядае. Усё га-

(Працяг на стар. 5)

# »ЛЮД БЕЛАРУСКІ«

## ТОМ VI

Выйшаў з друку VI том «Люду беларускага» Міхала Федароўскага, вядомага польскага даследчыка народнай культуры на тэрыторыі заходняй Беларусі і паўночна-усходняй Польшчы.

Як і V том, выдадзены ў 1958 годзе, змяшчае ён народныя песні і з'яўляецца працягам V тома. Кніга налічвае 595 старонак і дзеліцца на 5 частак: «Песні фрывольныя і танцы» (круцёлкі і мяцеліцы, песні жартоўныя, танцы, песні піяцкія», усяго 1213 песняў), «Песні розныя» (96 песняў), «Песні польскія» (сур'ёзныя і жартоўныя — 647 песняў), «Думкі і песні абрадавыя» (Песні хрысцінныя, хаўтурныя, думкі і песні, усяго 85 песняў) і дапаўненні.

VI том «Люду беларускага» выйшаў пад рэдакцыяй Антаніны Аорэмбскай - Яблонскай (старшыня рэдкалегіі), Ежы Дамраша, Станіслава Глінкі, Галены Казэрскай і Яна Станшэўскага.

Як і V том, кніга старанна апрацавана, выдадзена на прыгожай паперы і ў палатняным пераплёце. Тыраж 1200 + 200 экз. Цана 150 зл.

VI том «Люду беларускага» накшталт папярэдняга тома налічвае шмат беларускіх песняў з Беласточчыны. Гэтае каштоўнае выданне з'яўляецца новым значным укладам у пашырэнні польска - беларускіх суадносін і несумненна сустрэнецца з прыхільным прыёмам з боку грамадства.



«ХЛАПЕЦ» — Генадзь Бібіла (Кашалін).

# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку №_ 28

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## ПАЭТЫЧНАЕ СЛОВА

Паэтычнае слова — звінячы асколак,
Адломаны з песні птушынай,
З далёкіх, паднебных, яскравых вясёлак,
З сардэчнай пяшчоты матчынай,
Са славы мінулай
І з сённяшняй славы,
І з гордасці заўтрашніх дзён неапетых,
З дзявочых вачэй непрыступных, ласкавых,
І з гора, і з зораў,
І з сэрца, і з кветак.
Паэтычнае слова звінячай падковай
Грыміць па палях і дарогах;
Пачуццёвае слова, сардэчнае слова
Паплыло па вясковых дарогах
У змрок ціхалістны,
У ранак бурлівы,
У скрыпат парога і бацькаўскіх весніц,
У душы маркотных, вясёлых, шчаслівых,
У шыры і ліру,
У малітву і песню.

## ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ ЗЯМЛЯ

Ёсць на свеце зямля адна,
Да якой безупынна ідзем...
У майскіх і снежаньскіх снах
Цвіце вераснёвым агнём.

Цалуюць нас вусны рабін,
Вітае нас рып з-пад калёс,
Сардэчна крычаць вераб'і
Пяшчотна шапоча галлё.

Чым далей мы жывем ад яе,
Тым любоў і туга гарачэй.
Да вяртання нам крылы дае,
Не знікае ніколі з вачэй.

З яе рук мы свой лёс узялі —
Першы крок на дарогах надзей;
Да дрымучых лясоў і далін
Нас птушыным інстынктам вядзе.

Ёсць на свеце такая зямля,
Дзе пачатак мой ёсць і канец.
Як не верыш, прыдзі ды і глянь...
Радасць, радасць сэрца кране.

## ГАСЦІНЕЦ

Сярпом падрэзаў месяц вецце,
Прыгнаў у цішы стада зорак,
Знерухамеў, глядзіць і свеціць,
Маўчыць, нічога не гаворыць.

Далёка, стадам лебядзіным,
Імгла ўзнялася і асела,
А ў небе шлях бескаляінны
Лёг палатном дзявоча белым.

Прад намі ноч, далёка ранак,
Паветра вільгатнее, стыне.
І салавейка нечакана
Паслаў нам звонкі свой гасцінец.

## БОЛЬШ ЦІКАВЫХ і ЗМЯСТОЎНЫХ АПАВЯДАННЯЎ

**Друкуем артыкул Любы Філіпік з думкай, што ён дасць пачатак дыскусіі аб творчасці нашых аўтараў. Дыскусія такая прынесла б карысць у першую чаргу нашым пачынаючым літаратарам. Артыкул гэты не выказвае становішча рэдакцыі, а трэба яго разгледжваць як артыкул дыскусійны. Гэтакія ж адносіны рэдакцыі будуць і да наступных публікацый, прысвечаных творчасці нашых аўтараў.**

Мэтай данага артыкула не з'яўляецца падрабязны агляд усіх апавяданняў, надрукаваных у «Ніве». Я хачу выказаць некалькі заўваг аб тых апавяданнях, якія мне ўдалося прачытаць у гэтым годзе.

Вось апавяданне Віктара Рудчыка «Маленькі партрэт».

Вясковы хлопчык, Міхась, атрымаў ад незнаёмага маленькі партрэт Леніна, які схаваў пад страхой. Прайшлі гады. Партрэт быў знойдзен падчас разбору саламянай страхі. Гэта пажоўклая картачка з'яўляецца як бы сведкай усяго таго, што адбылося. Даўнейшы маленькі дапытлівы пастушок, Міхась, стаў настаўнікам. Ён жыве ў горадзе, летам прыехаў на адпачынак у вёску. Яго брат мяняе саламяную страху на чарапіцу. Жывецца добра, па-новаму. Усё гэта адбылося, дзякуючы Леніну, — растлумачвае Міхась сваім дзецям.

Такія змест і ідэя твора.

Прачытаўшы апавяданне, чытач адчувае нейкае нездавальненне. Ствараецца ўражанне, што аўтар чагосьці не дагаварыў.

Вось незнаёмы дае партрэт Леніна Міхасю, і чытач чакае, што гэты партрэт акажа на хлопчыка адпаведнае ўздзеянне, зробіць яго героем падзей.

Аўтар, аднак, не падумаў як правільна вырашыць данае пытанне. Проста заставіў Міхася схаваць партрэт пад страхой, дзе ён і праляжаў многа год.

Аўтар абышоў жыццё Міхася якраз у той перыяд, калі яно нас найбольш цікавіць.

У аўтара адчуваецца абыякавасць да апрацоўкі твора. Калі першая яго частка адзначаецца напружанасцю дзеяння, вобразнасцю, дык у другой частцы аўтар абмяжоўваецца толькі да сцвярджэння фактаў.

Трохі дэкларатыўна гучыць маналог Міхася ў канцы апавядання.

«...Бачыце дзеці, вы ходзіце ў чыстай вопратцы, умытыя, сытыя. Я таго не меў. А каб так было, як ёсць зараз, гэты чалавек з таго пажоўклага ад старасці маленькага партрэта не шкадаваў нават свайго жыцця. За тое, менавіта, трэба яго любіць, як роднага бацьку».

Бачым тут пазбаўленую мастацкай формы мараль. У тым і выяўляецца нявопытнасць маладога аўтара.

Віктар Рудчык умее набіраць эпітэты. Побач са словам «позірк» знаходзім наступныя эпітэты: тупы позірк, пытальны позірк, нічога не разумеючы позірк, здзіўлены позірк.

Дзякуючы ім, аўтару ўдалося часткова раскрыць характар малога Міхася і яго адносіны да незнаёмага.

Няўдачнай спробай асэнсаваць прыроду, паказаць яе багацце і красу, з'яўляецца апавяданне Сакрата Яновіча «Сцяпан з Макаравага выгана».

Апавяданне перапоўнена элементамі прыроды. Тут хвалі смяючагася збожжа, сады і вішні, травы і мятліца, месяц ды зоры, але, на жаль, усё гэта прыпаднесена чытачу ў неапрацаванай, сырой форме. Прырода ў апавяданні не звязана з чалавекам, яна існуе сама па сабе. Не атрымалася і той вобразнасці, на якую разлічваў аўтар. Нават таленавітаму мастаку трудна было б намаляваць карціну прыроды на аснове апавядання. Сюжэт апавядання рыхлы і не павязан кампазіцыйна.

У некаторых выпадках лірычныя адступленні ўстаўлены аўтарам не ва ўласцівым месцы і таму яны не сыгралі належнай ім ролі ў апавяданні.

Тэматыка апавядання некалькі ўстарэўшая. У сучасны момант, хіба, рэдка знойдзеш у нас такую вёску, дзе жнуць сярпамі.

Аўтар, наогул, павінен імкнуцца паказаць тыя змены, якія адбыліся ў вёсцы. Прапаведваючы новае, перадавое, трэба крытыкаваць старое, аджываючае. Аўтар умее пранікнуць у душу свайго героя, паказаць яго ўнутраны свет, яго імкненні і жаданні. Пажадаем яму і далей працаваць у гэтым напрамку.

Многаслоўным, не цікавым па кампазіцыі і задуме з'яўляецца апавяданне Заставіна «Кандратаў сон».

Чытаючы першую частку апавядання, імкнешся зразумець, што хоча сказаць аўтар, але так і не даведаешся. У пошуках гумару аўтару зусім не патрэбна прыгадваць шэраг анекдотаў, якія толькі заблытваюць сюжэт, робяць апавяданне штучным, выдуманым. Вельмі часта за другарадным, лішнім, цяжка дабрацца да галоўнага.

Сярод твораў, якія вылучаюцца як арыгінальнасцю задумы, так і мастацкімі якасцямі, неабходна адзначыць апавяданне С. Раманьчука «Дзядуля». У ім усё прадумана, узважана. Дзядуля ў апавяданні жывы, мы адчуваем яго душу, яго пакуты і радасці, яго жыццё. Гэта чалавек, які перажыў трагедыю вайны. Адзіная яго радасць — Мірослаў, маленькі хлопчык, надабраны дзядуляй у час вайны. Але неўзабаве прыходзіць пісьмо. Мірослава адшукаў бацька. Дзядуля застаецца сам.

Перад аўтарам стала праблема, як далей вырашыць лёс героя. Раманьчук пазбягае вонкавых эфектаў, імкнецца да жыццёвай і мастацкай апраўданасці паводзін і стану свайго героя.

Песімізм апавядання не ў тым, што дзядуля памірае, а ў самай форме апісання смерці. Сумам і нейкай сентыментальнасцю праніклі некаторыя радкі апавядання.

Могілкі ў аўтара «ціха і жаласна шумяць», «крыжы маўчаць», ідуць «працяглыя асеннія дажджы». Смерць ступае ў хату «чорным крылом» і гд.

У далейшай працы, на маю думку, аўтар павінен пазбягаць такой формы ўздзеяння на чытача. У творы павінна быць усё натуральным і перадуманым. Хацелася б знаходзіць на старонках «Нівы» цікавыя і змястоўныя апавяданні. Больш бы твораў, падобных апавяданню С. Раманьчука.

ЛЮБА ФІЛІПІК




«КУЗНЯ» — Генадзь Бібіла (Кашалін)

# Першыя крокі будучых спецыялістаў

У беларускія сярэднія школы Беласточчыны ў палове верасня прыбылі на месячную педагагічную практыку студэнты пятага курса беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Шчыра і сардэчна павіталі іх на сваіх уроках настаўніцкія калектывы нашых ліцэяў, асабліва выкладчыкі роднай літаратуры і мовы, у якіх будучыя маладыя спецыялісты пройдуць сваё першае «баявое хрышчэнне».

І хоць першыя ўрокі практыкантаў праходзяць звычайна пад знакам напружання і хвалявання, у будучых выпускнікоў беларускай філалогіі адчуваецца грунтоўнае валоданне ведамі ў галіне беларускай мовы і літаратуры. З прыемнасцю адзначаецца запал, з якім будучыя настаўнікі рыхтуюць і праводзяць заняткі са школьнай моладдзю. Трэба спадзявацца, што яны хутка і ўсебакова авалодаюць нялёгкім майстэрствам выкладчыка і ў недалёкай будучыні папоўняць настаўніцкія кадры нашых школ.

(мг)

# Ліст падпісала дзевяць чалавек

«...Жыве нас 10 сем'яў у рабочай гасцініцы Чарновсі. Зімою адрэзалі нам электрычнае святло. А як вядома, пачынаюцца ўжо доўгія вечары. Мы і нашы дзеці — школьнікі — прымушаны сядзець за «капцілкамі» ў той час, калі за акном, на вуліцы, гараць электрычныя лямпы. Мы просім, каб далі нам святло хоць на зімовыя вечары, але рада нарадовая тлумачыць нам, што гасцініца прызначана да лiквідацыі. Ніхто нам нічога не кажа, за колькі часу яе раскінуць і дакуль мы будзем пакутаваць у цемры».

Пад лістам 9 подпісаў жыхароў гасцініцы.

Працаўнік нашай рэдакцыі паехаў у Чарновесь, каб упэўніцца, ці факты, апісаныя ў лісце, з'яўляюцца праўдзівымі. Аказалася, што скарга жыхароў гасцініцы закранае толькі адну хвалюючую справу ў той час, калі ёсць там больш неадкладных і нявырашаных пытанняў.

Як выглядае справа з электрычным святлом?

Рабочая гасцініца — гэта вялікі барак, у якім жыло многа рабочых некалькі год таму назад, а менавіта тады, калі будаваліся вялікія прыгожыя «блёкі» ў гэтай мясцовасці. У бараку была агромная святліца, вялікая сталовая і шмат пакояў. Калі будова жылых дамоў была закончана і выехалі рабочыя, у гасцініцы закватараваліся сем'і. Вось, напрыклад, сям'я Альбіна Матыса; ён ужо працуе 10 год у мясцовай пякарні. У бараку з сям'ёй жыве тры гады. Два і больш гадоў жывуць у бараку сем'і Генрыха Грычкі, Мар'яна Варонкі, Францішка Грыцэвіча, Станіслава Глагоўскага і інш. Прэзідыум мясцовай рады нарадовай пачаткова прапанаваў прадаць барак, а пасля была думка разабраць яго. І так пачалася дэвастацыя.

У святліцы прэзідыум раскідаў сцэну, печы і кухоннае абсталяванне, пазней абарваў пільсню са сцен і паталка.

Жыхары гасцініцы таксама пачалі расцягваць будынак, — то клямку з дзвярэй забяруць, то самыя дзверы, то шкло з акон. І так усе разам будынак здэваставалі і ніхто за гэта не адказвае. А яшчэ год таму назад барак быў у нядрэнным стане. Нарэшце працаўнік электрастанцыі, нейкі Журавіцкі, 20 студзеня адрэзаў электрычнае святло. І так у бараку ўжо 8 месяцаў пануе цемра.

Якая ж тут бяздушнасць! Чаму б не направіць прыпсаваную інсталяцыю, тым больш, што людзі ахвотна за гэта заплацілі б? Чаму гэтая справа ў прэзідыум мясцовай рады нарадовай нікога не цікавіць?

Гасцініцай ад імя прэзідыума апякуецца Альберт Локець. Просьбы жыхароў аб наладжанні «элестрыкі», як там кажуць, маўляў, як гарох аб сцяну.

Кватэры ў бараку патрабуюць таксама неадкладнага рамонту. У іх проста немагчыма зімаваць. Няма ў нікога з жыхароў печаў.

Але ў гэтай справе нічога не робіцца. Толькі пасля інтэрвенцыі нашай рэдакцыі да гасцініцы абяцаў прыехаць старшыня прэзідыума ПРН у Беластоку з кіраўніком аддзела камунальнай гаспадаркі і на месцы ўсталіць кошты неабходнага рамонту, а ў першую чаргу прычыніцца да таго, каб людзі маглі карыстацца як найхутчэй электрычным святлом. Думаю, што яны свае слова стрымаюць.

М. СВАЯК



У цэнтры Саколкі. Фота — В. Касакоўскі

# Насустрач прагрэсу

VI Пленум ЦК ПАРП вялікую ўвагу звярнуў на неабходнасць як мага хутчэйшага ўзняцця на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчай культуры, на павелічэнне арганізацыйнай ролі сельскагаспадарчых гурткоў у павышэнні вытворчасці на вёсцы.

Многія сельгасгурткі смела уводзяць ўсё новае і перадавое ў жыцці вёскі. Вось, напрыклад, сельгасгурток у Падазеранах (Беластоцкі павет). Члены яго засіласавалі кукурузу з плошчы звыш 2,5 га.

Сельгасгурткоўцы даюць прыклад сваім аднавяскоўцам у адквашванні вапнай глебы. Нядаўна яны закупілі 16 тон вапны, якую выкарыстоўваюць у адквашванні агародаў і сенажацяў. У мінулым годзе гурток купіў малацільны агрэгат, які значна прычыніўся да калектыўнай працы сялян.

У наступным годзе члены гуртка плануюць купіць трактар. Зараз збіраюць на яго грошы і ўжо маюць звыш 8 тыс. злоты. Ужо цяпер для трактара і іншых сельскагаспадарчых машын будуецца ў Падазеранах вялікі гараж. Сельгасгурток у гэтай вёсцы стаўся сапраўдным ініцыятарам і арганізатарам усяго новага. Вось, дзякуючы гэтым якасцям, жыхары Падазеран канчаюць ужо будову злеўні малака.

*

Малады сельскагаспадарчы гурток у Зялёнай (Беластоцкі павет) таксама пачынае шырэй разгортваць сваю дзейнасць. Каб лепшыя былі ўраджаі і лепш развівалася жывёлагадоўля, гурткоўцы часта звяртаюцца за парадай да грамадскага агранома Ванды Бзём. Вынікам яе парады было тое, што гурток закупіў 22 тоны вапны да адквашвання глебы, а таксама будуе зараз сілосныя ямы.

Асноўную ўвагу ў сваёй працы гурток звяртае на рэпрадукцыю жыта і аўса. Ужо ў наступным годзе гурток зможа аднавіць збожжавы сеўны матэрыял амаль для цэлай вёскі. А гэта вельмі важна. На аднаўленне сеўнага матэрыялу асаблівую ўвагу звяртае VI Пленум ЦК ПАРП.

М. Х.

# Што чуваць у Гайнаўскім ПЗГС

Спярша некалькі лічбаў. Гайнаўскі ПЗГС у жніўні план нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў выканаў у 113,5 прац., у тым ліку збожжа ў 130 працэнтах. Агульны план нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў на бягучы год для ПЗГС складае суму звыш 65 мільёнаў злотых.

Кіраўніцтва ПЗГС у Гайнаўцы праяўляе пастаянныя клопаты аб павышэнні культуры і эстэтыкі вясковага гандлю.

У чэрвені мы распачалі ўводзіць спаборніцтвы па эстэтыцы і культуры вясковага гандлю ў ГС і паасобных крамах, — гаворыць старшыня ПЗГС у Гайнаўцы Кастусь Майсеня, — І ўжо цяпер можам ганарыцца пэўнымі дасягненнямі. Значна павялічыўся асартымент тавараў у вясковых крамах. Ужо шмат маем такіх крамаў, дзе налічваецца да 450 гатункаў усякіх тавараў. Апрача прадметаў і прадуктаў шырокага спажывання тут можна пабачыць таксама добры гатунак віна, папяросаў, кансерваў і спажывецкіх канцэнтратаў. Наш лозунг — «Максімальна зменшыць розніцу паміж гарадскім і вясковым гандлем»! А ўсе ўмовы для гэтага маем.

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 2)

ваша цела. Цяпер вы назаўсёды збавіліся ад астмы». — Ён яшчэ мог жартаваць!.. І я зразумеў усё.

Ларан са страхам глядзела на галаву.

— І пасля гэтага... пасля гэтага вы працягваеце з ім працаваць. Калі б не ён, вы перамаглі б астму і былі б цяпер здаровым чалавекам... Ён злачынец і забойца, і вы памагаеце яму ўзнесціся на вяршыню славы.

— У канцы канцоў якое значэнне мае імя аўтара? Важна каб ідэя ўвайшла ў свет і зрабіла сваю справу.

— Я данясу на яго... Я буду крычаць аб яго злачынстве...

— Цішэй... Успакойцеся, — угаварваў Дауэль. — Я ўжо гаварыў вам, што ў мяне няма пачуцця помсты. Але калі вы гэтак хочаце, я не буду адмаўляць вас... толькі не спяшыце. Я прашу вас пачакаць да канца нашых доследаў. Дык жа і мне патрэбны цяпер Керн, як я яму. Ён без мяне не можа закончыць працу, але таксама і я без яго. А гэта ж усё, што мне засталося.

У кабінеце пачуліся крокі.

Ларан хутка закрыла кран. Увайшоў прафесар Керн.

— Вось што. Трэба зрабіць пэўную падрыхтоўку. Галаву прафесара Дауэля мы паставім у пакой за лабараторыяй... Часова, калега, часова. Вы не спіце? — звярнуўся ён да галавы.

— А сюды заўтра прывязуць свежанькага трупа. І загаворыць новая галава. Яе і прадэманструем у навучным таварыстве. Пара абнародаваць нашае адкрыццё.

13

Раніцай на празектарскім стале лабараторыі прафесара Керна сапраўды ляжаў свежы труп. Новая галава не павінна была ведаць аб існаванні галавы прафесара Дауэля. І таму яе Керн пераставіў у суседні пакой. Прафесар Керн, Ларан і Джон у белых халатах працавалі над трупам.

Гэта быў труп жанчыны з прыгожым, але змарнелым тварам. На твары захаваліся яшчэ сляды пудры і граміравальнага карандаша. Твар быў спакойны. Толькі крыху паднятыя бровы і паўадкрыты рот выражалі нейкае дзіцячае здзіўленне.

— Спявачка з бара, сказаў прафесар Керн. — Была забіта напавал сляпой куляй падчас сваркі п'яных апашаў. Проста ў сэрца, — бачыце? Знарок так не трапіш.

Прафесар Керн працаваў хутка і ўпэўнена. Галава была адлучана ад цела, труп аднесены. Яшчэ некалькі мінут і галава была на высокім століку. У горла, у вены і сонныя артэрыі ўведзены трубкі.

Прафесар Керн знаходзіўся ў прыемна-узбуджаным стане. Набліжаўся момант яго свята.

На дэманстрацыю і даклад прафесара Керна ў навучным таварыстве былі запрошаны свяцілы навукі. Друк, кіраваны спраўнай рукой, змяшчаў папярэджваючыя артыкулы, у якіх узнімаўся навучны геній прафесара Керна. Журналы змяшчалі яго партрэты. Выступленню Керна з яго здзіўляючым доследам ажыўлення мёртвых чалавечых галоў прыдавалі значэнне свята нацыянальнай навукі.

Весела пасвістваючы, прафесар Керн вымыў рукі, закурыў сігару і самаздаволены паглядзеў на галаву.

14

— Хе-хе! На блюда трапіла галава самой Саламеі. Толькі адкрыць кран і... яна загаворыць. Ну, што ж, мадэмуазель? Ажыўляйцеся. Адкрыйце ўсе тры краны. У гэтым вялікім цыліндры паветра, а не яд, хе-хе...

Керн нахмурыўся, зрабіўся раптам сур'ёзным. Падыйшоўшы да Ларан, ён сказаў з націскам:

— Але ў прафесара Дауэля прашу паветранага крану не адкрываць. У яго... пашкоджаныя галасавыя звязкі.

І, павесялеўшы зноў, ён працягла заспяваў на матыў оперы «Паяцы»:

— І так, мы пачынаем!

Ларан адкрыла краны. Праз некалькі мінут галава ажыла. Калі яна канчаткова апамяталася, пачала крычаць: — Ах, ах, ах!.. Маё цела... маё беднае, цела!... Што вы зрабілі са мною? Ратуйце мяне, або забіце. Я не магу жыць без цела!..

Калі Брыке, — так называлася жанчына, — крыху супакоілася, то яна сказала:

— Вы кажаце, што ажывілі мяне. Але я ведаю, што галава не можа жыць без цела. Што гэта, цуд ці чары?

— Гэта — дасягненне навукі.

— Калі ваша навука здольна на такія цуды, то яна павінна зрабіць і іншыя. Прыстаўце мне іншае цела. Паслухайце, пане прафесар, я не магу так... вы павінны прыладзіць мне чыё небудзь цела... Я вельмі прашу вас. Толькі раней пакажыце мне. Трэба выбраць прыгожае цела. А так я не магу... Жанчына без цела... Я ўпэўнена, што калі толькі вы захочаце, то зробіце гэта...

15

# Асновы сілы

(Працяг са стар. 1)

трасальшчык гною, машыны да барацьбы з пустазеллем, ці іншыя і не трэба баяцца, што будуць стаяць яны без працы.

Нямала ўвагі і грошай спулдзельцы прызначаюць на загаспадараванне сенажацяў. Гэтая справа цесна звязана з намаганнямі за развіццё жывёлагадоўлі, на якую зараз кладзецца асаблівы націск.

Сельгаскааперaтывы не абмяжоўваюцца выключна да чыста гаспадарчых інвестыцый. Яны не забываюць аб культурных патрэбах сваіх членаў і ўсіх аднавяскоўцаў. Будаўніцтва грамадска - культурнага характару спулдзельцы будуць рэалізаваць супольна з цэлай вёскай і сельгасгурткамі, выкарыстоўваючы дзеля гэтага ўласныя фінансавыя сродкі і працу сялян у рамках грамадскіх чынаў. Гэткім спосабам пабудавана ўжо святліцу у Вульцы Нурэцкай, у Дарожках будуецца «Сялянскі дом», а ў Крывой і Васьках вядзецца падрыхтоўка да будовы святліц.

Узнікае пытанне: адкуль сельгаскааперaтывы на ўсё гэтае возьмуць грошы?

Шмат паможа ім дзяржава, прызначаючы сялянскім спулдзельням доўга і кароткатэрміновыя інвестыцыйныя пазыкі. Але 32,6% агульных коштаў запланаваных інвестыцый кааперaтывы пакрыюць з капіталаў выпрацаваных на сваёй спулдзельчай гаспадарцы.

Падчас рэалізацыі гэтых інвестыцый праўленні сельгаскааперaтываў павінны так арганізаваць усе працы, каб не прапала дарэмна ніводная залатоўка. Асабліва трэба звярнуць увагу на напрамкі, якія вызначаюць пастановы апошніх пленумаў Цэнтральнага Камітэта ПАРП.

Паспяховае выкананне гэтых мерапрыемстваў выдатна ўзмоцніць кааперацыйную гаспадарку Беласточчыны, што не застанецца без уплыву на рост узроўню жыцця спулдзельчых сем'яў і адначасова выявіць перавагу супольнай гаспадаркі над аднаасобным затрачваннем сродкаў і сілы.

**ЮЛЬЯН ПОЛУДНЯК**
**Кіраўнік бюро Ваяводскага саюза сельгасспулдзельні**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЕМІНАР У БЕЛЬСКУ

(Працяг са стар. 1)

Вельмі важнай праблемай з'яўляецца пашырэнне і актывізацыя гурткоў БГКТ. У павеце налічваецца цэлы рад вёсак, у якіх мясцовы актыў праяўляе вельмі слабую дзейнасць. Прысутны на семінары старшыня праўлення Павятовага Аддзела нашага таварыства Арцём Чыквін сказаў, што беларускі актыў з Бельска восенню наведае ўсе гурткі БГКТ у павеце і дапаможа ім правільна наладзіць сваю дзейнасць. Неабходна, каб яшчэ ў большай меры ў дзейнасць гурткоў БГКТ уключыліся настаўнікі, як перадавы атрад народнай інтэлігенцыі.

«Ніва» ў кожнай беларускай сям'і. На добры лад так павінна быць. На жаль, многія беларускія актывісты ўсё яшчэ не дааценьваюць той вялікай прапагандысцкай ролі, якую можа сыграць пашырэнне нашага роднага часопіса. Беларускае настаўніцтва, у прыватнасці, абавязана зрабіць усё, каб у кожнай школе як мага больш вучняў выпісвала «Ніву», да якой прыкладаецца бясплатны дзіцячы дадатак «Зорка».

«Нашыя мастацкія гурткі часта - густа наракаюць на недахоп народных убораў, якія так патрэбны пры арганізацыі пастановак — гаварыў у сваім выступленні мгр. Мікалай Гайдук, выкладчык Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску. Звычайна, у такіх выпадках кіраўнікі гурткоў абіваюць парогі павятовых дамоў культуры і іншых арганізацый у пошуках такіх убораў. Нярэдка з-за адсутнасці ў даны момант патрэбных убораў зрываюцца пастаноўкі.

Усё ж здаецца, што тут робіцца не зусім патрэбную пагоню за гэтымі ўборамі. Трэба ісці не да павятовага дома культуры, але заглянуць у куфры сваіх бабуль і матак. Там вы знойдзеце прыгожыя саяны, цудоўныя кашулі з багатым арнаментоўкай, ручнікі з непаўторнымі ўзорамі і вышыўкі. Усё гэта, менавіта, трэба выкарыстаць у дэкарацыі пастановак мастацкіх гурткоў, усё гэта паказаць на сцэне — сваё, мясцовае, арыгінальнае і як жа беларускае!»

Гэтая дзялянка культурнай працы таіць у сябе вялікія рэзервы. Іх умелае выкарыстанне прыдбае таварыству яшчэ адну каштоўную форму дзейнасці сярод сялянства. (ся)

# ВОСЬ, ЯК БЫЛО

(Працяг са стар. 1)

товае, купчае мае. Вось чаго дажыліся! Калісь, бывала, збяруцца дзяўчаты на вечарынкі і прадуць разам ды спяваюць:

Сухэ літо было,
Льну, конопель мало.
Корочэнька сорочэнька,
Рукаўцоў не стало.

— А калі былі танцы, то тады спявалі:

Мой бацька, Васіль,
Чаравічкі пашыў.
Мая маці, зазуля,
Чаравічкі абула.

А музыкант на скрыпках (бо калісь не было гэтых усіх гармоніяў, як зараз) граў аж хата трашчала:

Мая жонка хароша,
Мая жонка хароша,
Мая жонка хароша...

— А другі музыкант груба яму адказваў:

А твая брыдкая,
А твая брыдкая,
А твая брыдкая...

Вось, як было паночку.

**— А ці паншчыну Вы памятаеце?**

— Я то не, але мае бацькі яшчэ хадзілі рабіць да пана. Чатыры дні на тыдзень. Пан жыў у Беластоку. На сваёй гаспадарцы, як расказвалі, начамі трэба было працаваць, а ў пана і ў дождж, і пагоду, у мароз і на спекаце.

Вось, як было, паночку, інакш зусім, не так як зараз, што ўсе па-мястоваму на вёсках ходзяць і працаваць ім не хочацца.

**Запісаў: В. РУДЧЫК**

# Перад новым выпускам

Секцыя беларускай філалогіі завочнага аддзялення Настаўніцкай Студыі ў Беластоку перажывае гарачы час падрыхтоўкі да выпускных дзяржаўных экзаменаў і абароны дыпломных прац студэнтаў ІІІ-га курса.

У лістападзе г.г. да выпускных экзаменаў мае прыступіць 21 студэнт. У сучасны момант праходзяць апошнія экзамены, залікі і падрыхтоўка дыпломных прац да абароны.

Тэматыка дыпломных прац будучых выпускнікоў Настаўніцкай Студыі ахапіла шырокае кола праблем беларускай мовы і гісторыі беларускай літаратуры. У прыватнасці, студэнт ІІІ-га курса Сакрат Яновіч будзе абараняць дыпломную працу на тэму «Грамадская праблематыка ў літаратурнай спадчыне Кастуся Каліноўскага», студэнтка Тамара Бура падрыхтавала да абароны працу, прысвечаную дакастрычніцкай лірыцы Якуба Коласа.

Цікавую працу на тэму «Георгі Скарына і яго паслядоўнікі» напісаў студэнт Пятро Рыжык. Каштоўнасць гэтай працы павялічваецца тым, што яе аўтар прысвяціў асабліва многа месца развіццю кнігадрукавання ў XVI — XVII стагоддзях на Беласточчыне. Студэнт Уладзімір Паўлючук будзе абараняць працу, прысвечаную гаворцы вёскі Рыбалы, Бельская павета. Гэты пачын студэнтаў Настаўніцкай Студыі ў галіне даследвання праблем беларускай мовы і літаратуры, якія звязаны з Беласточчынай заслугоўвае асаблівай пахвалы.

Пажадаем жа нашым дыпломнікам традыцыйнага студэнцкага «ні пуха, ні пяра».

(мг)

---

«А чаму б не?» — падумаў прафесар Керн. Хоць ён прысвоіў сабе ўсю чэсць ажыўлення галавы, аддзеленай ад цела, але ў душы ўсведамляў, што ўдачны дослед з'яўляецца заслугай прафесара Даўэля. Але чаму не пайсці далей Даўэля? З двух трупаў зрабіць аднаго жывога чалавека, — гэта было б грандыёзна!

— А вам хочацца яшчэ патанцаваць? — усміхнуўся Керн і пусціў у галаву Брыке струю сігарнага дыму.

— Ці я хачу? Я буду танцаваць дзень і ноч.

Дайце мне цела, маладое, прыгожае жаночае цела!

— Але чаму абавязкова жаночае? — жартаўліва спытаў Керн. — Калі вы толькі захочаце, я магу даць вам і мужчынскае цела.

Брыке паглядзела на яго са здзіўленнем і страхам.

— Мужчынскае цела? Жаночая галава на мужчынскім целе! Не, не, гэта будзе пачварна!

— Дык вы тады ўжо не будзеце жанчынай. Вы ператворыцеся ў мужчыну. У вас вырастуць вусы і барада, зменіцца голас. Ці ж вы не хочаце ператварыцца ў мужчыну? Шматлікія жанчыны шкадуюць, што яны не нарадзіліся мужчынай.

— Гэта, напэўна, такія жанчыны, на якіх мужчыны не звярталі ніякай ўвагі. Такія, зразумела, выйгралі б ад ператварэння ў мужчыну. Але я... я не патрабую гэтага. І Брыке горда ўзняла свае прыгожыя бровы.

— Ну, хай будзе па-вашаму. Вы застанецеся жанчынай.

Думка аб смелай аперацыі захапіла Керна.



Ён напружана працаваў, рыхтаваўся да гэтай складанай аперацыі. Ён замыкаўся з галавой прафесара Даўэля і гутарыў з ёю. Без парады Даўэля Керн пры ўсім сваім жаданні абыйсціся не мог. Даўэль указваў яму на цэлы шэраг цяжкасцей, аб якіх Керн не падумаў і якія маглі мець уплыў на вынік доследу, раіў зрабіць некалькі доследаў на жывёліне і кіраваў гэтымі доследамі. І, — такая была моц інтэлекту Даўэля, — ён сам захапіўся доследам. Галава Даўэля быццам нават павесялела. Думка яго працавала з надзвычайнай яснасцю.

Керн быў здаволены і не здаволены гэтак шырокай дапамогай Даўэля. Чым далей рухалася праца, тым больш пераконваўся Керн, што без Даўэля ён з ёю не справіўся б.

— Вы належны перайманьнік пакойнага прафесара Даўэля, — аднойчы сказала яму галава Даўэля з ледзь прыкметнай іранічнай усмешкай.

— Ах, калі б я мог прыняць больш актыўны ўдзел у гэтай працы!

Гэта не было ні просьбай, ні намёкам. Галава Даўэля вельмі добра ведала, што Керн не захоча даць яму новае цела.

Керн нахмурыўся, але зрабіў выгляд, што не чуў гэтага воклічу.

— І так доследы з жывёлай закончыліся паспяхова, — сказаў ён. — [illegible] аперыраваў двух сабак. Абезгаловіў іх, прышыў галаву адной да тулава другой. Абедзве жывуць, швы на шыі зрастаюцца.

— Кармленне? — спытала галава.

— Пакуль яшчэ штучнае.

Праз некалькі дзён Керн аб'явіў:

— Сабакі кормяцца нармальна.



Наканец прафесар Керн з пераможным выглядам увёў у пакой галавы Даўэля сабаку з чорнай галавой і белым тулавам. Сабака, відавочна, адчувала сябе добра. Вочы яе былі жывыя, яна весела махала хвастом.

Убачыўшы галаву прафесара Даўэля, сабака раптам залаяла дзікім голасам.

— Правядзеце сабаку па пакоі, — сказала галава.

— А што гэта? — спытаў Даўэль. — Сабака крыху кульгае. І галасок не ў парадку.

— Сабака кульгала і да аперацыі, — сказаў Керн.

— Вы не маглі знайсці пару здаровых сабак? — з сумненнем у голасе спытала галава. — Я думаю, са мною можна быць адкрытым, паважаны калега. Пастарайцеся толькі каб ваша Брыке не захварэла на абедзве ногі.

«Абураюча! — думаў Керн. — Гэта шыпячая, як праколата шына, галава працягвае вучыць мяне і здзекавацца над маімі памылкамі... Паварот крана, і дух выляціць з гэтай гнілой тыквы...

Адвёўшы сабаку, Керн вярнуўся з сантыметрам у руках і дакладна змерыў шыю Брыке.

— Трыццаць шэсць сантыметраў — сказаў ён.

— Божа, няўжо я так схудла? У мяне было трыццаць восем. А размер туфляў я нашу...

Але Керн не слухаў яе. Ён хутка выйшаў у кабінет. Не паспеў ён сесць за стол, як у дзверы запукалі.

— Увайдзіце.

Дзверы адкрыліся. Увайшла Ларан. Яна старалася трымацца спакойна, але твар яе быў усхваляваны.

(Працяг будзе)

